 

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**коворот** — прылада для выцягвання вады са студні. Шчось наш коворот затінатіся став і вэльмі тяшко ходыт. Покуоль відро воды вытягнэш, то аш сорочка мокра станэ.

**баба** — частка „коворота“, у выглядзе тоўстага, закапанага ў зямлю непадалёк ад студні драўлянага стаўба, вярхом разгалінаванага. Трэба нову бабу закопаты, а то ся гніты од зэмліе почала. Старость.

**журавэль** — другая частка „коворота“. Складаецца з двух элементаў — доўгага кругляка, замацаванага ў месцы разгалінавання бабы так, што стварае ён з зямлёй востры вугал, і тонкага шаста, каб можна было ахапіць рукой, свабодна завешанага, найчасцей пры дапамозе нейкага ланцуга, на тым канцы кругляка, які ўзносіцца ўгару. Другі канец шаста закончаны крукам, адпаведна прыстасаваным для замацоўвання вядра. Пры дапамозе сілы чалавечых рук, прыложанай на шэст вертыкальна ўніз, кругляк мае магчымасць перавесу ў месцы прымацавання да бабы. Іды журавэль полать, а то тычка одвязалася і нэма як воды вытягнуты.

**тынк** — драўляная абудова калодзежа, якую цяпер заступаюць бетонныя бочкі. Трэба будэ наш колодэць почыстіты, а то тынк обгныў і туолькі порохна насыпалося, шчо аш воду гідко пыты.

**ключка** — прылада для выцягвання вады ў выглядзе тонкага закончанага крукам шаста. Ты нэ знаеш, шчо з нашою ключкою сталося. Пропала дэсь і хоч ты плач. Воды вытягнуты нэма чым.

**крутіуолка** — прылада для выцягвання вады, але больш сучасная. Складаецца з двух, закапаных па баках калодзежа слупоў, да якіх прымацаваны, абарочваемы кольбай, валок, на які накручваецца ланцуг з прывязаным вядром. А муой крутіуолку зробіў коло колодэця і так тэпэр лёгко і добрэ воду чэрпаты.

**(Кашалі, гміна Орля)**

## З беларускага друку

### Прапануюцца...

Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах (УААП), якое займаецца пытаннямі перадачы правоў на выкарыстанне твораў савецкіх аўтараў у галіне літаратуры, музыкі, навукі, выяўленчага мастацтва за мяжой, а таксама пытаннямі набыцця правоў на выкарыстанне твораў замежных аўтараў у СССР, выпусціла анатаваны каталог па раздзелу „Проза“. У ім, побач з іншымі савецкімі пісьменнікамі, прадстаўлены і беларускія літаратары.

Прапануюцца наступныя кнігі: „Выбраныя творы“ ў двух тамах А. Адамовіча, „Акраец хлеба“ Я. Брыля, „Абеліск“, „Дажыць да світання“ В. Быкава, „Дзве аповесці“ В. Казько, „Каласы пад сярпом тваім“ У. Караткевіча, „Расстаёмся ненадоўга“ А. Кулакоўскага, „Першае каханне“ А. Марціновіча, „Мсцiжы“ І. Пташнікава, „І прыдзе твой дзень“ У. Савіцкага, „Гандлярка і паэт“ І. Шамякіна. Даюцца кароткія бібліяграфічныя даведкі пра аўтараў.

### „ВІШАНЬКА“, „КРЫЖАЧОК“ І ІНШЫЯ

Выдавецтва „Беларусь“ выпусціла новы зборнік пад назвай „Беларускія танцы“.

У кнізе змешчаны запісы танцаў „Вішанька“, „Крыжачок“, „Падушачка“, „Таўкачыкі“, „Мікіта“ і „Котчынская кадрыль“. Усе яны створаны харэографам Іванам Маркавічам Хворастам на аснове фальклорных танцавальных узораў. Асобныя паставы і рухі выканаўцаў на сцэнічнай пляцоўцы ілюструюцца малюнкамі.

Цяпер выдавецтва „Беларусь“ рыхтуе ў дапамогу калектывам і ўдзельнікам мастацкай самадзейнасці зборнікі „Гучыць духавы аркестр“, „Арыі з беларускіх опер“, „П’есы для ансамбля народных інструментаў“, „Рытмы маладых“ і іншыя.

З НАГОДЫ ДНЯ ПРАЦАЎНІКА ПОШТЫ

## КАЛІСЬ І СЁННЯ ў Супраслі

На вуліцы Канарскага ў Супраслі стаіць стары драўляны чорны дом, крыты гонтамі. Гэта старая пошта з XVIII стагоддзя. У будынку гэтым пошта змяшчалася да 1 верасня 1939 года. Пасля вайны аж да цяперашняга дня ў будынку тым жывуць працаўнікі пошты.



Старая пошта з XVIII ст.

Найстарэйшым працаўніком супрасльскай пошты з’яўляецца Генрык Жынэль, які ад мінулага года ўжо на пенсіі. А вось што ўспамінае гэты чалавек:

— На працу паступіў я ў 1937 годзе. Быў я пісьманосцам. Пакуль стаў сапраўдным пісьманосцам, служыў на пасылках. Калі распачалася вайна, трэба было пахаваць усе дакументы пошты. Некаторыя мы хутка палілі. Такі быў тады загад. Прыпамінаю сабе і іншую гістарычную дату. Жнівень 1944 года. Супрасль ужо вызвалены. Да мяне з Беластока прыехаў Аляксандр Янушкевіч і мы нанава пачалі арганізоўваць пошту ў Супраслі. Найперш яна змяшчалася ў прыватных будынках. Павыцягвалі мы частку пахаваных матэрыялаў. Па-рознаму прывозілі ў Супрасль пошту з Беластока. У канцы 1945 года на пошту далі нам мураваны будынак на вуліцы Цілічанскай, дзе пошта працуе да сёння..



Начальнік пошты ў Супраслі Тэрэса Бабуль.

Ужо пяты год начальнікам пошты ў Супраслі з’яўляецца Тэрэса Бабуль. А што яна нам сказала?

— Так неяк і склалася, што на пошце я ўжо працую 16 гадоў. Калі я прымала пасаду начальніка, не думала тады яшчэ, што ўбачу столькі навінак на нашай пошце ў Супраслі. У гэтым годзе ўвялі мы на нашай пошце дзве паўаўтаматычныя цэнтралі. Далёкапіс завітаў да нас у мінулым годзе. Нават і сядзім мы на спецыяльных крэслах, якія не мучаць у працы. Нашы працаўнікі? Старэйшыя, вопытныя, вучаць сваіх маладых калег. І я перакanана, што многія з тых маладых, якія працуюць на цэнтралі, пакахаюць прафесію працаўніка пошты і так, як і я, застануцца тут назаўсёды. Сёння мне цяжка было б прыняць іншую працу.



Заслужаны працаўнік пошты ў Супраслі Генрык Жынэль.

Начальнік пошты ў Супраслі Тэрэса Бабуль з’яўляецца заслужаным і прыкладным працаўніком. Дысцыплінаваная, сумленная ў працы. Гэтага вымагае ад сябе і ад сваіх працаўнікоў. Ведае яна, што ад аператыўнасці пошты часта залежыць нават жыццё людзей.

**(гай)**

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## БЕЛАСТОЧЧЫНА ТЭКСТЫЛЬНАЯ

Тэкстыльная прамысловасць здаўна была і астаецца па сённяшні дзень вядучай спецыяльнасцю Беласточчыны. І вельмі добра, што Беластоцкі музей рэвалюцыйнага руху ў сваім новым памяшканні на вуліцы Варшаўскай 37 арганізаваў выстаўку **„Гісторыя беластоцкай тэкстыльнай прамысловасці“**. Яна



Каля выстаўкі цяперашніх тканін камбіната імя Э. Плятэр у Васількове.

прыгадвае асноўныя факты з узнікнення, нялёгкага шляху ўзлётаў і ўпадкаў і сённяшняга стану развіцця гэтай галіны прамысловасці.

Першыя ткацкія мануфактуры на Беласточчыне яшчэ ў XVIII стагоддзі заснoўвалі ў самім Беластоку гетман Кленeнс Браніцкі, у Сяміхочах — іх уладальніца Анна Ябланоўская, у Крынках — падскарбі надворны літоўскі Антоні Тызенгаўз. Калі пасля ўпадку Лістападаўскага паўстання ў 1832 г. царскі ўрад устанавіў сціслую тамажную мяжу паміж Польскім каралеўствам і Расійскай імперыяй, яна ў нашых ваколіцах праходзіла якраз па рацэ Нарве. Каб пазбегчы высокіх тамажных падаткаў, прадпрымальнікі з Лодзі і іншых гарадоў Каралеўства польскага, а таксама з краін Заходняй Еўропы пачалі пераносіць свае фабрыкі на Беласточчыну або засноўваць тут новыя аб’екты, бо неабсяжны рынак збыту, якім была тагачасная царская імперыя, абяцаў аграмадныя даходы. Так паўсталі значныя ткацкія прадпрыемствы Захерта, Бухгольца і Ауэрта ў Супраслі, вялікая фабрыка Міхалоўскага каля Нізбодкі (сённяшняга Міхалова), шматлікія фабрыкі ў Гарадку, Васількове, Пясчаніках, Крулёвым Мосце, Свінабродзе, Сахонях, Варашылах і іншых мясцовасцях вакол Беластока. Цікава, што прадпрыемства Хрысціяна Моеса ў Харошчы належала ў другой палове XIX стагоддзя да самых вялікіх у Еўропе.

Беластоцкія ткачы выраблялі самыя разнастайныя матэрыялы ад „цяжкага“ сукна да ажурнага цюлю. Аб якасці гэтых вырабаў вымоўна сведчыць факт, што нядаўна знойдзены недзе на падстрэшшы ў спарахнелым сундуку фрак з беластоцкага сукна з XIX ст. выглядае так, быццам сёння сшоў з-пад іголкі!

З бегам часу фабрычкі ў малых мясцовасцях занепадалі, затое ўсё буйней развівалася тэкстыльная прамысловасць у самім горадзе Беластоку. Напрыклад, калі ў 1857 г. у беластоцкай акрузе было 75 фабрык, то ў горадзе Беластоку ўсяго 10, праз 50 год у акрузе было ўжо 375 прадпрыемстваў, а ў Беластоку аж 240, а праз наступныя 30 год, г.зн. у 1937 г. у акрузе толькі 90 фабрык, а 70 іх знаходзілася ў Беластоку.

Разам з развіццём прамысловасці рос і гуртаваўся рабочы клас Беласточчыны. Першая забастоўка прайшла ўжо ў 1870 г. Тады пакінулі работу ў цёмных, сырых і смярдзючых цэхах і выйшлі на вуліцу 130 рабочых фабрыкі Ауэрта ў Супраслі і 300 рабочых беластоцкай фабрыкі Камішо. Вельмі рана ў асяроддзі беластоцкага пралетарыяту пачалі дзейнічаць рэвалюцыйныя партыі. Ужо ў 1879 г. тут праводзілі агітацыю члены рускай „Народнай Волі“, потым паўстаюць гурткі польскай сацыялістычнай партыі „Пралетарыят“, затым энергічна дзейнічаюць Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы, яўрэйскі Бунд, Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя. У міжваенны перыяд у асяроддзі беластоцкіх тэкстыльшчыкаў паспяхова пашыралася дзейнасць Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і кіруемых ёю маладзёжных і грамадскіх арганізацый.

Цалкам новая карта гісторыі беластоцкай тэкстыльнай прамысловасці пачала пісацца ўжо ў Народнай Польшчы. Паўстаўшая з папялішчаў ваенных знішчэнняў, сёння яна належыць да вядучых у нашай краіне. Беластоцкія рабочыя-тэкстыльшчыкі пасля вайны былі першымі змагарамі за ўстанаўленне і ўмацаванне народнай улады, цяпер жа з’яўляюцца яны ахвярнымі будаўнікамі сацыялістычнага грамадства. З беластоцкіх тэкстыльных камбінатаў з іх навейшым абсталяваннем сыходзяць мільёны метраў разнастайных высакаякасных тканін.

Выстаўка з’яўляецца вынікам плённага супрацоўніцтва Музея рэвалюцыйнага руху з вядучымі тэкстыльнымі прадпрыемствамі Беластока і яго ваколіц. **Можа гэта будзе добрай заповеддзю іх супольных дзеянняў у напрамку арганізавання ў будучыні Музея тэкстыльнай прамысловасці ў Беластоку? Патрэбу ў ім даўно ўжо адчувае грамадства Беласточчыны.** Цяпер жа раім наведаць выстаўку, якая будзе адкрыта да канца бягучага года.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



Колішнія вырабы беластоцкай тэкстыльнай прамысловасці.



 

(Працяг са стар. 1)




нага, што паўставала пасля вайны. Вярнуўшыся з няволі, ён пайшоў у 1946 годзе служыць у міліцыю.

— Ну, што і казаць: нялёгка даводзілася, — прыгадвае У. Гуралеўскі. — Часы вельмі неспакойныя былі, і служыў я ў цяжкім раёне — на пастарунку ў Вышках, у былым Бельскім павеце. У тых ваколіцах дзейнічалі банды „Гусара“, „Млота“, „Яскулкі“. Сама меней пяць год я праспаў, не распранаючыся ды з вінтоўкай каля боку. А колькі разоў хадзілі мы ў засаду ці на аблавы на бандзёраў — не злічыць! Трапляў не раз і не два ў вельмі крытычныя сітуацыі, калі жыццё вісела на валаску. Але тыя часы я ўспамінаю цяпер вельмі ахвотна — ладныя часы былі! Служыў я з добрымі людзьмі, вернымі таварышамі, што ніколі не падвялі ні ў часе выканання службовага задання, ні на забаве. Пераважна ўсе хлопцы былі з нашага боку. Камендант у нас быў слаўны чалавек — Павел Касцюкевіч. Ён цяпер жыве недзе ў Беластоку...

Адслужыўшы ў МО восем год, У. Гуралеўскі засумаваў па сваёй хаце, агародчыку, спакойнай рабоце і перайшоў працаваць на пошту.

І на новай працы ён не змяніў сваіх паводзін: заўсёды рыхтэльны, салідны, сумленны ў выкананні сваіх службовых абавязкаў, спагадлівы і сардэчны ў адносінах да кожнага чалавека. Апрача ўсяго гэтага У. Гуралеўскі імкнецца быць — не пазбягайма гэтых слоў, бо яны праўдзівыя! — сеўцам асветы ў сваім асяроддзі. У вялікай ступені дзякуючы яго працы ў чатырох наднараўскіх вёсачках людзі рэгулярна выпісваюць звыш сямісот (!) экземпляраў розных газет і часопісаў. Сюды ідзе многа „Садавіны, агароднiны і кветак“, „Аграхіміі“, „Газеты вспулчэснай“, „Грамады“, але традыцыйна ўжо каля дваццаці год вядучае месца займае наша „Ніва“. Колькасць падпісчыкаў нашага тыднёвіка ў раёне працы У. Гуралеўскага ўвесь час павялічваецца: у мінулым годзе іх было 166, а ў бягучым — ужо 171 ды ўсё гэта падпіска на цэлы год. Доўгія гады ён з'яўляецца нязменным пераможцам у спаборніцтве пісьманосцаў па пашырэнню падпіскі нашага часопіса і лаўрэатам шэрагу ўзнагарод рэдакцыі і ГП БГКТ. Відаць, і за бягучы год ён таксама ўтрымае за сабою гэтае першынство.

З праўдзівай прыемнасцю віншуем нашага прыяцеля Уладзіміра Гуралеўскага з Агульнапольскім святам сувязіста і жадаем яму добрага здароўя і асабістага задавальнення з яго высакароднай службы.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА V**




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**Грамадская тэматыка.** Грамадскія матывы выступаюць у наступных імпрэсіях: „Пастушка“, „Бяссоннасць“, „Ля вапеннай гары“, „За тканінай“, „Без споведзі“. У гэтых творах пісьменнік звяртаецца да розных аспектаў грамадскай рэчаіснасці. Найчасцей аднак цікавіцца сялянскай нядоляй і працай.

У імпрэсіі „Пастушка“ пісьменнік паказаў постаць дзяўчынкі, якая пасе панскіх гусей. Саркастычная вымова твора заключаецца ў тым, што не толькі пан, але і бацька дзяўчынкі і па сутнасці таксама яна перакананы, што галоўнае заключаецца ў тым, каб наеліся гусі, а пастушка можа заставацца галоднай.

У імпрэсіі „За тканінай“ выступае тая ж самая тэма, з якой маем дачыненне ў вядомым вершы Багдановіча „Слуцкія ткачыхі“. Гераіняй твора з'яўляецца безыменная дзяўчына, якую сілай забралі ў панскі двор. Дзяўчына на працягу многіх гадоў тчэ шаўковыя тканіны. Твор „За тканінай“ мае характар скаргі, наракання, плачу. У некаторых фрагментах набліжаецца ён да элегіі або да хаўтурнага прычытання:

*„Абшчыпалі мяне, як той гарох пры дарозе.*
*Даўгія валасы мае ад пакуты вылінялі,*
*Ясныя вочы мае ад бяссонніцы аслеплі.*
*Гучны голас мой ахрып, плачучы ў поўначы“.*

Імпрэсія „За тканінай“ з'яўляецца формай абароны зняволенага чалавека, формай пратэсту супраць паднявольнай працы. Выступае ў ім тыповая для беларускай жанчыны эмацыянальнасць і светаадчуванне.

У двух творах: „Бяссоннасць“ і „Ля вапеннай гары“ маем дачыненне з новай тэмай — пахвалой сялянскай працы. Герой „Бяссоннасці“ брыдзе па цёмнай вуліцы і даходзіць да пуні, у якой пры дапамозе манежа людзі малоцяць збожжа. Герой прыходзіць да вываду, што сапраўды шчаслівым можа быць толькі той чалавек, які жыве з вынікаў уласнай працы:

*„Спрытна і зграбна ішла праца ў таку, вясёлымі і здаровымі выглядалі твары.*

*У гэты самы час успомніліся мне словы: „У поце твару твайго будзеш ты есці хлеб свой!“*

*Во калі толькі чалавек можа быць шчаслівы на зямлі!..“*

Можам тут гаварыць аб пэўнай міфалагізацыі сялянскай працы, аб народніцкай ідэалізацыі яе. З падобнай трактоўкай працы маем дачыненне ў імпрэсіі „Ля вапеннай гары“. Аўтар паказвае тут людзей, якія займаюцца выпальваннем вапны. Пісьменнік падкрэслівае не толькі фізічную дынаміку чалавека працы, але звяртае таксама ўвагу на яго духоўнае хараство. Гаворыць ён пра вапельнікаў: *„Добрыя людзі яны! Апошні кавалак хлеба аддаюць жабраку на дарозе!“*

Спецыфічную пазіцыю ў „Абразках“ займае твор „Без споведзі“. Справа ў тым, што амаль усе змешчаныя ў зборніку творы мелі характар бесфабулярнай прозы. У творы „Без споведзі“ Бядуля стараецца ўвесці элементы фабулы. Выступае ў ім завязка, кульмінацыя, развязка. Па сутнасці маем тут дачыненне з навелай або нават з дзвюма навеламі. Твор складаецца з трох частак. У першай аўтар расказвае аб перадсмяротных хвілінах і аб смерці вясковай бабулькі. У другой задумоўваецца над праблемай геройства ў жыцці розных людзей, у трэцяй паказвае сына бабулькі, які едзе за папом і па дарозе замярзае ў час завеі.

Навела „Без споведзі“ з'яўляецца доказам невялікага яшчэ пісьменніцкага вопыту Бядулі. У сваім творы імкнецца ён да максімальнай канцэнтрацыі чалавечых няшчасцяў. Дзякуючы гэтаму, твор яго набліжаецца да змрочнай балады. Нельга аднак не адзначыць, што ў навеле не мала фактаў, здарэнняў, апісанняў, якія праўдзіва і глыбока прадстаўляюць сялянскую нядолю і псіхіку беларускага селяніна.

Усе сацыяльныя творы з „Абразкоў“ былі пасведчаннем гарачай сімпатыі аўтара да беларускага селяніна, спачування яго нядолі, пахвалы яго духоўных якасцей.

(Працяг са стар. 3)

# КУЛКОВАЯ БЕЛАСТОЧЧЫНА

ла аблогам. Цяпер яна засеяна. Толькі ў гэтым годзе СКР-ы прадалі дзяржаве звыш 20 тысяч тон збожжа і 5 тысяч тон мяса. Гэта ўжо лічыцца ў харчовых патрэбах нашага ваяводства.

А яшчэ болей лічацца структурныя пераўтварэнні ў адносінах да зямлі і ў спосабах яе выкарыстання. Калі ў вёсцы Камёнка, Заблудаўскай гміны, члены сельскагаспадарчага гуртка пабудавалі першую ў нашым ваяводстве супольную хлеўню для адкорму некалькі дзесяткаў свіней, была гэта тады вялікая падзея. Цяпер СКР-ы будуюць свінаферму на 1200, а то і на 2 і 3 тысячы штук. Таксама з гадоўляй авечак і рагатага статку. Але не адным хлебам жывуць сяляне. Зімою, для прыкладу, наладжваем мы ў вёсках школы грамадскага і палітычнага абучэння жанчын, высылаем нашых работнікаў і актывістаў на адпачынак і ў санаторый. Наша дзейнасць ахоплівае ўсе дзялянкі жыцця сялян.

**Віктар Рудчык**



*СКР Шудзялава. Авечая ферма ў Гуранах, у якой гадуюць каля 1,5 тысячы авечак.*

## Увага, падпісчыкі савецкай прэсы!

Напамінаем, што ўжо засталося няшмат часу — толькі да 28 кастрычніка гэтага года паштовыя аддзяленні і аддзелы РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“ прымаюць заказы на падпіску савецкай прэсы на 1978 год.

Дзяржаўныя і грамадскія ўстановы, школы і прадпрыемствы, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў могуць рабіць заказы ў найбліжэйшым аддзеле РСВ.

Індывідуальныя падпісчыкі савецкай прэсы могуць зрабіць заказ у найбліжэйшых паштовых аддзяленнях, у аддзелах РСВ, ва ўсіх клубах прэсы і кніжкі, а таксама ў вызначаных кіёсках „Рух“.

У Беластоку заказы прымае І аддзел РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“, вуліца Каперніка 93, тэл. 227-85.







(Працяг са стар. 1)

Знаходжуся на полі Уладзіміра Валкавыцкага. Бездапаможна махае рукой.

— Паглядзіце! — паказвае разрыты бульбянік. — Чаго не з'елі, тое растапталі.

— А вось што асталося ад нашага аўса! — яго жонка паказвае скамечаныя снапы, якія асталіся ўжо ад скошанага збожжа.

— Я сваё поле сцярог цэлае лета, ноч у ноч, — гаворыць недалёкі сусед дзядзькі Уладзіміра — гаспадар Мікалай Рошчанка.

— А я ж таксама начаваў тут два тыдні, — дабаўляе Валкавыцкі. — Усе пільнавалі. Ці аднак упільнуеш! Хопіць на гадзіну некуды адлучыцца — і канец, ужо няма чаго і збіраць.

— Паглядзіце на поле Кандрацюкоў! — звяртае маю ўвагу Мікалай Рошчанка, калі пераходзім на яго палоску. Малюнак вельмі сумны. Трэба добра прыгледзецца, каб распазнаць, што на гэтым месцы расла пшаніца, якую не ўдалося гаспадарам скасіць, бо раней растапталі яе дзікі і сарны.

Дзялянка Мікалая Рошчанкі ўжо заворана і засеяна жытам.

— У мяне тут, — інфармуе ён, — нейкіх 60 сотак поля.

Іншыя палоскі больш-менш такой велічыні, хаця зусім нядаўна ў Белавежы ўжо правялі камасацыю зямлі. І, як не дзіўна, мае субяседнікі наракаюць на гэтую камасацыю!

— Раней, — паясняе дзядзька Мікалай, — калі мелі мы тут зямлю ў церасгалосіцы, затраты раскладаліся на ўсіх. У аднаго крыху знішчылі, у іншага таксама і так далей. А цяпер... як нападуць на калонію, дык ужо хана...

Разумею гэтых гаспадароў. Сярод іх не было і няма багацеяў. Гектар, паўтара або два гектары зямлі — гэта тыповая ў Белавежы гаспадарка. Каб яшчэ можна было спакойна задбаць пра яе, каб гэтая зямля давала плён, а тут... Вось свежыя сляды кагорты дзікоў. На заворанам полі яны адбіліся, як на масле. Дзесяткі слядоў рознай велічыні. Ішлі ў бульбу.

— Як вы бароніцеся ад гэтай ненажорлівай звярыны? — пытаю.

— Няма ад іх ніякага ратунку! — лемантуе жанчына. — То ж гэтых дзікоў нават сабакамі нельга пацкаваць, бо зараз пагражаюць штрафамі!

— А каб агарадзіць, — прапаную.

— Агароджа нібы тут ёсць, — гаворыць Мікалай Рошчанка. — Цэлы нацыянальны парк агароджаны ад нашай паляны. Што аднак з гэтага! Сетка слабая. Дзікі яе лёгка падрыюць, а затым і разарвуць. Лясная адміністрацыя не дбае аб гэтай сетцы. Я сам часта хаджу латаць дзіркі, але і гэта не вельмі памагае. У нядзелю павяжам драты, а ў панядзелак раніцай ізноў сетка прарвана і дзікі на полі.

— Тут трэба нам моцную загарадзь! — усклікае дзядзька Уладзімір Валкавыцкі. — Як за цара было.

* ❊ *

Шмат чаго яшчэ давялося мне выслухаць ад белавежскіх сялян, якія гаспадараць між запаведнікам і палацовым паркам. Усё аднак зводзілася да таго, што цяжка ім там вырошчваць высокі ўраджай на сваіх невялічкіх дзялянках зямельных угоддзяў.

— Калі прыдуць ацэньваць затраты, дык глядзяць на нас, як на заўзятых злодзеяў, якія толькі і намагаюцца абакрасці дзяржаву.

— А мы змагаемся за сваё, толькі за сваё!

— Бо гэтая кампенсацыя не вяртае і палавіны нашых затрат.

— Пасеяў я тут, — гэта гаворыць Барыс Валкавыцкі, — 48 сотак аўса і сабраў нейкіх дзве фуркі, з якіх намалаціў не больш чым паўтара цэнтнера, а павінна было быць больш тоны. З паўгектара бульбы накапаў 20 мяшкоў. Дзе хто бачыў такі ўраджай? Пятая доля таго, што звычайна, нават без угнаенняў, сабраў бы пры іншых умовах!

— А ўгнаенні — бяры! Гэтага наша гміна не прапусціць. А што нам з гэтых угнаенняў, калі дзікі і так усё з'ядуць і затопчуць...

* ❊ *

Пайшоў я па ўстановах. У акруговым праўленні дзяржаўных лясоў у Беластоку, між іншым, даведаўся, што ў мінулым годзе лясная адміністрацыя выплаціла белавежскім сялянам амаль 200 тысяч злотых рэкампенсацыі.

 

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ВЯСНЯНКА




*— Шэрая гуска, дзе ты бывала?*
*— За мором, мором, жыр жыравала.*
*Жыр жыравала, дзеці гадавала.*
*— Лецеце, дзеці, аж на ўкраіну,*
*я — ваша маці, вас не пакіну.*

Ад Анны Трахімчук, 1891 года нараджэння, вёска Лука гм. Нараўка, запісаў 17 жніўня 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ТАК БЫВАЕ...

## Любіла жонка грошы

Рызыкант, залётнік, слаўны каваль, грашасты кавалер — вось якім быў Даніла з-пад Дубровы. Кавалёў было малавата, і таму ў яго было шмат работы.

Адзін з першых купіў ён матацыкл добрай маркі. Нядзелямі ездзіў па забавах нават у даволі далёкія вёскі. Добра танцаваў і сам быў прыгожы. Не адна дзяўчына рада была б выйсці замуж за яго. А жаніцца была яму ўжо даўно пара. Многа ён бачыў розных дзяўчын, многа яму сваталі, але ён не мог сабе выбраць адпаведную кандыдатку на жонку, усё знаходзіў нейкія недахопы.

Народная пагаворка кажа: „За перабірачку дастанеш балячку". Ажаніўся Даніла, калі яму было ўжо каля 40 год, з дзяўчынаю, якой яшчэ і 19 не споўнілася. Яна любіла быць элегантнай, накрашанай, упудранай, апранутай паводле апошняй моды. Любіла яна грошы і таму прымушала мужа вельмі многа працаваць. Рана будзіла:

— Даніла, уставай, бо не паспееш Івану плуг пачыніць на час... Даніла, яшчэ не позна, парабі яшчэ, закончы работу Петрука!

І працаваў Даніла многа і цяжка. Кавальскім молатам валіў у кавадла ад усходу сонца да позняй ночы. Сыпаліся грошы, якія дакладна лічыла жонка і якіх яна хацела мець усё больш і больш.

Але калі Данілу пераваліла за пяцьдзесят, стаў ён слабей сябе адчуваць, зрабіўся цяжкім для яго кавальскі молат, хацелася яму больш паспаць і часта сярод дня адпачыць ці нават задрамаць на паўгадзінкі. Усё часцей, замест вечарам працаваць у кузні, Даніла ішоў да свайго прыяцеля-суседа, каб з ім пасядзець, пагаварыць аб тым ды сім і, што тут граха таіць, аб сваім нялёгкім жыцці таксама.

Усё гэта не падабалася маладой жонцы. Пачалі ў хаце адбывацца сваркі за тое, што Даніла ўсё менш зарабляе кавальскіх грошай, за тое, што работа залежваецца.

— Ты гультаём робішся, — крычала жонка, а калі Даніла тлумачыў, што яму ўжо не пад сілу столькі працаваць, як раней, жонка ў гэта не верыла і кідалася з кулакамі да яго, быццам баксёр. Ён не хацеў біць, але, абараняючыся, таксама не аднаго мог куксача ўсадзіць.

Іх чатырохгадовы сынок, наглядзеўшыся ў тэлевізары на баксёрскія спаборніцтвы, думаў, што яны баксуюцца, і з радасці камандаваў: „Мама, ты правай рукой, а ты, тата, левы просты! Лепей! Жывей!"

І злосць бярэ бацьку, бо, як кажуць, і грэх і смех. Уцякаў з хаты, ды прыходзіў тады, калі надыходзіла ноч, бо толькі тады быў спакой у хаце. У Данілы нарадзілася пачаткова думка, каб пакінуць жонку, выехаць куды-небудзь. Непакоіла толькі адно, што неяк з кожным годам ён слабее і выразна гэта адчувае. Яго прыяцель пацяшаў:

— Ты, Даніла, выкінь з галавы свае выезды. Трэба жыць на сваім месцы. Маеш гаспадарку, абрабіць яе заўсёды дасі рады, а з кавальскіх работ бяры такія, пры якіх не трэба паднімаць молата.

На жаль, прыяцель Данілы раптоўна памёр. І не меў ужо Даніла з кім сваім горам дзяліцца. Думаў, што знойдзе сябру ў асобе Арцёма. І ў цяжкія мінуты расказаў яму аб тым, што жонка з-за прагі да грошай не дае яму жыць і прымушае многа працаваць у кузні, што калі ён не прамаўчыць падчас яе нападак, дык кідаецца з кулакамі і зусім не верыць, што ён слабее. А Арцём, выслухаўшы Данілу, пачаў смяяцца з яго, ды яшчэ ў вясковай краме з рогатам гаварыў:

— Даніла казаў, што яго сілы пакідаюць, дык за гэта лупіць часта яго жонка.

Крыўдна было Данілу, што Арцём яго інтымныя справы па вёсцы разносіць. А людзі смяюцца з усяго, нават з бяды чалавечай.

Пасля чарговай сваркі Даніла павесіўся ў сваёй кузні.

**Міхась Сваяк**



— Дакладна — 186 тысяч злотых, — інфармуе Мікалай Седунь, інспектар з Белавежскага надлясніцтва. — Але ў гэтым годзе затраты сялян будуць у нас яшчэ вышэйшыя.

Звяртаюся да надляснічага Станіслава Ігнацьева.

— Мы са свайго боку рабілі і робім усё, каб гэтыя затраты былі меншыя. Белавежскую паляну ўжо часткова мы абгарадзілі. Ёсць у нас грошы на пакупку матэрыялаў, каб закончыць агароджу. Маем добры прыклад: вёскі Буды, Тэраміскі і Пагарэльцы. Там палі адгароджаны ад пушчы і затраты зменшыліся амаль да нуля.

— Чаму тады не гародзіце ў Белавежы?

— Белавежская паляна вельмі вялікая. Нам не пад сілу гэта. Надлясніцтву не хапае рабочых, каб справіцца з асноўнымі заданнямі ў шматбаковай лясной гаспадарцы. Каб белавежцы захацелі самі...

* ✻ *

Да гэтага аднак хтосьці мусіць іх заахвоціць і арганізаваць. І таму я пабываў яшчэ і ў гмінных улад.

Можа трапіў я ў Белавежу не ў адпаведны час. У гэты дзень белавежская гмінная ўлада была якраз занята падрыхтоўкай дажынак. Спецыяльны штаб вырашыў праблему: як найлепш прыняць гасцей. Дзе ім там было да мяне! Пагаварылі мы тады і з нічым разышліся.

Дажынкі аднак ужо закончыліся, і цяпер, спадзяюся, ёсць час, каб падумаць аб белавежскіх сялянах, якім прыходзіцца з віламі ганяцца за лясным зверам.

* ✻ *

Я не супраць дзікоў, але перш за ўсё шкада мне людзей, якія намнога лепш маглі б выкарыстаць свае творчыя сілы. А яшчэ болей шкада мне збожжа і бульбы, якія не папаўняюць нашыя супольныя харчавыя запасы. Кампенсацыя лясной адміністрацыі за затраты ад дзікоў — нават поўная, стопрацэнтная, з'яўляецца найгоршай развязкай праблемы, бо зводзіцца яна да перакладання грошай з кішэні адных грамадзян у кішэнь іншых. Тады трэба шукаць болей разумнага вырашэння гэтай справы, каб дзікі не былі галодныя і каб поле аставалася цэлым.

Затым чакаем водгукаў — чакаем іх ад сялян, ад лясной адміністрацыі і ад грамадскіх дзеячоў у Белавежы.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## МАЙСТАР НА УСЕ РУКІ

## МІКАЛАЙ ГОГЕЛЬ

Мікалай Гогель, жыхар Гарадка, з 1925 года нараджэння. Увесь час жыў і жыве ў сваім невялікім мястэчку. Дзяцінства і маладосць былі ў яго нялёгкія, такія, як у большасці юнакоў і дзяўчат гэтага пакалення. Хадзіў ён у пачатковую школу толькі зімою, таму, што вясною, летам і восенню пасвіў ён кароў на вёсцы. Падчас нямецкай акупацыі, баючыся, каб не забралі яго на прымусовыя работы ў Германію, пайшоў працаваць спачатку на чыгунку, пасля быў на тартаку ў Валілах, а пазней у мэблярскай сталярні ў Чарноўсі. Пасля вызвалення пачаў працаваць на гаспадарцы, якой налічваецца 7 га. Працавалася яму добра, таму што ў яго, як кажуць, „залатыя рукі". А гэта ў гаспадарцы вельмі важная справа, яна аблягчае жыццё.

Ён адзін з першых у сваёй ваколіцы пачаў спецыялізавацца ў авечкагадоўлі. Гадаваў па 50-60 авечак. Прадаваў дзяржаве шмат авечага мяса і воўны. Праз нейкі час змяніў спецыялізацыю і перакінуўся на птушкагадоўлю. Паўтары тысячы курэй-нёсак меў на сваёй ферме і дзесяткі тысяч яечак у год прадаваў. Вялікую карысць меў і ён сам, і дзяржава. На птушкаферме як мог механізаваў працаёмныя працэсы працы. Увесь час ён жыве ў дружбе з тэхнікай. Любіць нешта зрабіць, адрамантаваць, наладзіць якую-небудзь машыну, калі сапсуецца. Менавіта таму яму павярылі дзяржаўны малацільны агрэгат, якім ён у многіх вёсках многім гаспадарам малаціў збожжа. Ездзіў нават даволі далёка, аж у Астравы, што пад Крынкамі, у Сасновік і Крушыняны. Пасля 1956 года меў ён сваю малацілку. Быў усюды жаданым, таму што яго малацілка была на высокім тэхнічным узроўні і добра вымалочвала збожжа. Кожны год хапала яму работы аж да каляд. А пасля каляд на зломе збіраў ён падыходзячае жалества, з якога рабіў новы, лепшы малацільны агрэгат. Пасля заканчэння малацільнага сезона прадаваў сваю малацілку і рабіў новую, яшчэ больш дасканалую. І так зрабіў і прадаў 8 малацілак. Рабіць яму было даволі зручна, бо ўсё выконваў у сваёй дасканала абсталяванай майстэрні. Цяпер яна яшчэ багацейшая рознымі машынамі і прыладамі, якімі можна выконваць нават складаныя тэхнічныя работы. І Мікалай Гогель шмат гэтых работ перарабіў, а некаторыя машыны ўласнымі рукамі выканаў, напрыклад, механічную крайзэгу, бетанярку, таркарку, гэблярку, млынок для грэчкі. А ўжо зусім рамеснік ён у галіне цясляркі, сталяркі, мураркі, мэблярскіх вырабаў, ён хаця самавук, аднак спецыяліст высокага рангу. Сам робіць вокны, дзверы, сталы, паліцы, лавы і г.д. Мэблярскімі вырабамі Мікалай Гогель займаецца толькі зімой. У іншыя поры года займаецца ён будаўніцтвам. Пабудаваў замужняй дачцы ў Міхалове дом, пабудаваў вілу для свайго жанатага сына Івана, а таксама гарбарскі будынак, у якім вырабляюцца футравыя скуры. Неабходна падкрэсліць той факт, што калі Мікалай Гогель будуе, дык ён у будынку ўсё сам зробіць. Ён і змуруе будынак, і зробіць сталярку, выканае ўсе гідраўлічныя работы, уключна з цэнтральным ацяпленнем, паложыць таракоту і бляхарскія работы выканае (рыны яго васьмігранныя). І на шклярскія работы не трэба нікога наймаць.



*Мікалай Гогель падчас працы. З цвёрдай пільсні зрабіў ён невялічкі гараж на легкавую машыну.*



*Яго ўласны дом, адноўлены і павялічаны.*

Цяпер ён працуе пры сваёй уласнай хаце, якую не толькі аднавіў, але і значна павялічыў. Была гэта звычайная хата, традыцыйна пабудаваная шчытом да вуліцы. Ён павярнуў яе, паставіў уздоўж вуліцы ды падняў яе на 1,90 метра і паставіў на фундаментах. Атрымалася ўнізе дадатковае памяшканне, у якім у яго і майстэрня, і склад, і памяшканне на бульбу і паліва. Першы паверх яго хаты цалкавіта змяніў выгляд і функцыю. Апрача пакояў ёсць тут і калідор, і кухня, і туалет. У Мікалая Гогеля ў адноўленым доме 6 пакояў і кухня. Апрача таго, ёсць яшчэ прыгожая веранда. Ім, самавукам, нязвыкла здольным чалавекам зацікавілася нават тэлевізія, у якой паказана была яго хата, якую ён ад панадворка пачынае абіваць дэкаратыўнай шалёўкай.



*Віла, якую пабудаваў Мікалай Гогель свайму сыну Івану.*

Тэкст і фота
**Міхася Хмялеўскага**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

ГМІННЫЯ ДАЖЫНКІ

## У Чаромсе



*Традыцыйны бохан хлеба...*
Фота **Г. Навіцкай**

Ужо з самай раніцы каля дома культуры „Калеяж“ у Чаромсе збіраўся натоўп людзей з усіх куткоў гміны. Пачынаецца ўрачыстае адкрыццё дажынак. Духавы аркестр чытуначнікаў іграе дажынкавы гімн. У бок трыбуны кіруецца дажынкавы карагод. Традыцыйны бохан хлеба ўручае гаспадару дажынак І сакратару ГК ПАРП С. Фалькоўскаму старасціна З. Маркевіч — выдатны земляроб з Беразішчаў і стараста Л. Чэрмак з Пагулянкі.

З дакладам выступае начальнік гміны М. Тэлентэюк, які шчыра дзякуе ўсім працаўнікам сельскагаспадарчай службы за іх цяжкую самаахвярную працу на гаспадарцы. Пасля даклада старшыня дажынак аб'яўляе прозвішчы заслужаных хлебаробаў, якім Рада Дзяржавы прызнала высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Сярэбраны Крыж Заслугі атрымлівае перадавы гаспадар Чаромхі Васіль Астапковіч. Бронзавыя Крыжы Заслугі — Мікалай Кашмалюк з Ставішчаў і Пелагія Пашковіч з Пагулянкі. Дзве асобы атрымліваюць значкі „Заслужаны працаўнік сельскай гаспадаркі“, а 16 асоб — ганаровыя граматы.

У мастацкай частцы выступае эстрадны калектыў „Паланез“ з Варшавы. Цікавымі былі выстаўка народнага мастацтва і сельскагаспадарчых плёнаў, а таксама алімпіяда сельскагаспадарчых ведаў.

Жанчыны з гуртка вясковых гаспадынь упершыню арганізавалі паказ вырабу салатаў і пячэння, а грамадскі камітэт дапамогі арганізаваў латарэю. Аматары спорту маглі паглядзець футбольныя і валейбольныя матчы.

**Ул. Сідарук**

## У Нараўцы

Сёлетняе жніво жыхары Нараўскай гміны закончылі дажынкамі. Гэта было сапраўды свята земляробаў. Каля 2000 сялян сабралася на мясцовым стадыёне. З прывітальным словам выступіў дырэктар СКР Кастусь Майсеня. Быў адыграны дажынкавы сігнал і прачытаны верш „Вось узяў я жменю жыта“. Стараста дажынак, Міхась Валкавыцкі з Заблоччыны і старасціна — Вера Пташынская з Міхнаўкі ўручылі бохан хлеба з соллю гаспадару дажынак, І сакратару ГК ПАРП Ю. Бароўскаму. Дажынкавы карагод школьнай моладзі пад кіраўніцтвам настаўніцы Ядвігі Карпюк выканаў надта цікавую праграму, звязаную з сёлетнім жнівом. У сваім выступленні гаспадар дажынак шчыра падзякаваў усім сялянам, жанчынам, моладзі, трактарыстам і камбайнёрам за добрую працу ў такім цяжкім сёлетнім жніве.

Далей выступаюць сяляне. Яны нясуць адзінаццаць вянкоў. Кожная вёска са сваім вянком выконвае ўласную мастацкую частку. Прадстаўнікі жнеяў абяцаюць яшчэ лепшую працу ў будучыні. Гучаць вершы і песні, пад музыку акардэона паасобныя групы танцуюць. Каля дзвюх гадзін праходзіла надта добра падрыхтаваная дажынкавая праграма. Верш „Ужо не шуміць збожжа ў полі“ канчае афіцыяльную частку. Аркестр з Беластока выступае са сваёй праграмай. Побач мясцовая бібліятэка пад кіраўніцтвам Зыты Савіцкай рэкламуе на выстаўцы сельскагаспадарчую кніжку. Можна было ўбачыць цікавую выстаўку сёлетняга жніва. Каля збожжа была паказана гародніна і іншыя плёны, выпрацаваныя рукамі нараўкаўскіх земляробаў. Мастацкую частку ўпрыгожыла Тамара Бядрыцкая з Забалоччыны. Яна прыгожа іграе на акардэоне. Адбыліся спартыўныя розыгрышы ў ручны мяч. Спартыўныя гульні падрыхтаваў гмінны цэнтр спорту і рэкрэацыі. Улады гміны сардэчна дзякавалі ўсім, хто прыняў удзел у дажынках гміны Нараўка.

**А. З.**

## У Шудзялаве

Праграма гмінных дажынак у Шудзялаве паказала найлепшае збожжа, гародніну, найлепшых кароў і авечак. Найлепшым гаспадарам былі ўручаны ўзнагароды і дыпломы. Мы бачылі таксама ворку поля. Пасля быў уручаны бохан хлеба гаспадару дажынак, начальніку гміны Рыгору Чарневічу. Мінулае лета было цяжкім для хлеба. Перашкаджалі частыя дажджы, але жыхары гміны сабралі свой ураджай, хоць з вялікімі цяжкасцямі. Ураджаі сёлетнія былі крыху слабейшыя за мінулагоднія, але год быў не найгоршы.

Найлепшым збожжам на дажынкавай выстаўцы было жыта і авёс Саламона Бандарука з Астраўка і Тадэвуша Рэдаса са Слойкі. Найлепшымі каровамі на выстаўцы аказаліся каровы Івана Прымакі з Кнышэвіч і Тадэвуша Рэдаса са Слойкі. Потым начальнік гміны ўручыў узнагароды найлепшым гаспадарам. Іван Прымака з Кнышэвіч і Тадэвуш Рэдас атрымалі Бронзавы Крыж Заслугі, а многія іншыя — дыпломы і пахвальныя лісты.

Падсумоўваючы ўраджай збожжа з гектара, трэба сказаць, што найлепшыя ўраджаі атрымаў СКР у Шудзялаве з сядзібай у Паўночным Востраве. Іх ураджай быў на два цэнтнеры з га большы, чым ураджай ПГР у Крынках і індывідуальных гаспадароў Шудзялаўскай гміны.

**Віт**

## Багатая дзейнасць

Бельскі дом культуры існуе і дзейнічае ўжо некалькі гадоў. Яго дзейнасць пашыраецца. Ужо выпрацаваны розныя формы працы, якія вядуцца пастаянна. Гэтымі багатымі формамі працы дом культуры здабывае сабе пашану сярод жыхароў горада і ваколіц. А вось некаторыя формы працы: танцавальная група моладзі, дзявочая вакальная група, гурток скульптараў, група малых эстрадных форм, маладзёжны хор. Апрача гэтага, дзейнічаюць гурткі зацікаўленняў — філатэлістаў і фатаграфікаў. На рэпетыцыі тут збіраецца хор „Васілёчкі“. Вялікая заслуга ў пашырэнні працы дома культуры належыцца яго дырэктару — мгр Сяргею Лукашуку, які прымае актыўны непасрэдны ўдзел у гэтай дзейнасці.

**Мікалай Няплоха**

## Памылка, ці выманьванне грошай?

У многіх кіёсках „Рух“ прадаюцца батарэі для транзістарных радыёпрыёмнікаў і ручных ліхтарыкаў — без праверкі. У гэтым я пераканаўся сам у пачатку верасня, купляючы 2 батарэі ў кіёску на станцыі ў Чаромсе. І хоць прадаўшчыца запэўніла, што будуць гарэць напэўна, аднак адна з іх была сапсаваная. Калі я сказаў аб гэтым прадаўшчыцы, яна параіла складаць рэкламацыю. А ці ж чалавеку хочацца вазіцца за 6 злотых? Шкада часу і нерваў. На маю думку, прадаўшчыцы павінны больш дбаць пра сваю рэпутацыю. Таксама Ваяводскі аддзел „Руху“ ў Беластоку павінен даваць добры тавар, а не выманьваць грошы. У Чаромсе на станцыі здарэнне з батарэямі такое было ўжо не адно.

**(ус)**

## Зуб павінен балець толькі ў ліпені

Мае даражэнькія, хачу вам расказаць сёння, як можна вырваць балючы зуб. Давялося мне ў час канікул паслаць сына на адпачынак у Клейнікі. Ды забалеў яму зуб. Хлопец не мог нікуды падзецца ад болю. Паехаў я да яго. Па дарозе Гайнаўка. Думаю, завязу хлопца — вырвуць зуб і па болю. Знаёмыя параілі ехаць надта рана, бо казалі, бывае многа людзей. Выбраўся я першым аўтобусам і ўжо ў 6 гадзін раніцы апынуўся ў раённай амбулаторыі ў Гайнаўцы. Лічу людзей, і знаходжуся на пятым месцы. Думаю — усё добра. Чакаю гадзіну, бо запісваюць а 7-ай гадзіне раніцы.

Сядзіць хлопец, скрыўлены ад болю і толькі людзі з жалем паглядаюць на яго. І вось прыходзіць пані ад запісаў. Людзі становяцца ў чаргу. І тут пачалося. Пані адкрыла дзверы і станоўча заявіла: „Прыме сёння 10 асоб і толькі з балючымі зубамі“. Нядрэнна, думаю. Сын пяты і зуб яму баліць. А калі адна дзяўчына адмовілася ад чаргі, дык мы апынуліся на чацвертым месцы. Упускаюць па дзве асобы. Першыя дзве жанчыны праз хвілінку вылятаюць ад пані рэгістратаркі, як апараныя са слязьмі ў вачах. Аказалася, пані не дагледзелася вялікага болю ў іх і не прыме. Жанчыны з вёскі патрацілі дзень пільнай працы ў полі і з зубамі не зрабілі парадку. Але, думаю ўвесь час, у майго хлопца справа канкрэтная. Пасылаю жонку з думкай, што ў яе спакайнейшыя нервы. Пані рэгістратарка змерыла жонку ад галавы да ног і адразу пазнала, што ёй зуб не баліць. Жонка сказала, што зуб баліць дзіцяці — вучню. Вось тады, як не кінецца пані ў белым фартуху, што вучні прыймаюцца зубным лекарам у ліпені, а не ў жніўні (вось, як добра было б, каб зубы ў вучняў балелі толькі ў ліпені!), а калі даведалася, што мы пастаянна жывем у Нараўцы, дык не было ані прыступу, ані паяснення, атрымалі загад ехаць у Ляўкова. Абышлі мы яшчэ ўсіх зубных лекараў прыватна, але нічога. Вядома ж — у жніўні водпускі і зубы ў гэтым месяцы не маюць права балець.

Паехаў я з хлопцам у Ляўкова. Заехалі мы на 12-ую гадзіну. А тут натоўп людзей — і дарослыя і дзеці, хоць і жнівень. Налічыў я 40 чалавек і падумаў: нічога не будзе. А ўсё ж іду да лекара. І вось мілае дзіва! Аказаўся ён надта ветлівым чалавекам. Узяў і вырваў зуб вучню ў жніўні, ды запрасіў яшчэ і на другі раз, каб і іншыя зубы падлячыць.

Вось і так, даражэнькія! Адзін доктар у вёсцы можа абслужыць і 40 чалавек у дзень, а другі — у раённай Гайнаўцы — 10 асоб. А ў сваю чаргу — шчырае дзякуй доктару ў Старым Ляўкове. Але... у сваю чаргу, парадкамі ў Гайнаўскай стаматалагічнай амбулаторыі трэба сур'ёзна заняцца.

**А. З.**

## Народны разбяр

Януш Дарашкевіч — самародны народны талент у разьбе па дрэву. У яго кватэры на вуліцы Новай у Супраслі мноства розных уласных вырабаў. Ён вырабляе перш за ўсё сувеніры. Крыху лепіць таксама з гліны. Працы яго трапілі ўжо ў Англію, Аўстралію, Канаду, ЗША, Венгрыю, ФРГ, Галандыю, Швецыю і Савецкі Саюз. Шмат тэмаў ён чэрпае з мясцовага фальклору. Яго сувеніры ахвотна купляюць турысты.

Прымаў удзел у агульнапольскіх выстаўках рамяства ў Беластоку, Варшаве, а ў апошні час — у Кракаве.

**(гай)**

## Цікавы конкурс

Гмінны цэнтр культуры ў Нараўцы арганізаваў цікавы конкурс пад назвай „Вялікая літаратура і сярэбраны экран“. Удзельнікі конкурсу выказаліся добрымі ведамі па літаратуры і кінематаграфіі. Сабралася многа людзей. Першае месца заняў Аляксандр Бяляўскі. Мерапрыемства прайшло ў прыемным і творчым настроі. Было яно добра падрыхтавана. Адбылася таксама мастацкая частка. Дапамогу пры арганізаванні гэтага мерапрыемства аказаў Гайнаўскі дом культуры.

**А. З.**

## Але „гаспадарнасць“!

Некалькі гадоў таму назад вёска Тапаркі належала да Дубіцкай гміны і быў тут парадак. З Грабаўца да гэтай вёскі была пралажана жвіраваная дарога, толькі нейкіх паўтара кіламетра каля саміх Тапаркоў засталося незакончаных (па прычыне халадоў і зімы). А вось, калі гаспадарыць у Тапарках пачала Кляшчэлеўская гміна, дык за пяць гадоў ніяк не могуць закончыць гэтай дарогі. І самі жыхары вёскі неяк прызвычаіліся да такога становішча. А варта супольнымі сіламі ўзяцца і работу закончыць.

**М. Панфілюк**

## Патрэбны людзям



Штабовы сержант Мар'ян Захаж з камісарыята МО ў Саколцы — міліцыянер з вялікім вопытам. 20 год ён працуе ў грамадзянскай міліцыі. Быў на розных пасадах, у розных кутках Польшчы. Аднак месцам, з якім найбольш звязаўся і ў якім ужо працуе 20 год, з'яўляецца Саколка. Людзі яго любяць і шануюць. Бо Мар'ян Захаж — гэта актыўны грамадскі дзеяч, які заўсёды стаіць за справу людзей, за іх дабро. Памагае кожнаму ў сваім раёне дзеяння. Ён член грамадска-лекарскай камісіі па справах прымусовага лячэння алкаголікаў і член спулдзельчай жыллёвай камісіі. У сувязі з гэтакай сваёй дзейнасцю наведвае многа сем'яў, бачыць зло, якое робіць алкаголь у сям'і. Гаворыць: „Вельмі часта даводзіцца бачыць групкі дзяцей, пакінутых бацькамі, непатрэбных, адкінутых, якім застаецца толькі крок, каб зыйсці з добрай дарогі“. Ён усіх такіх знае, памагае ім і горне іх пад сваю апеку.

Міліцыянер Мар'ян Захаж — часты госць у школах, арганізацыях і ўстановах. І ўсюды яго ўвага накіроўваецца на дзяцей і моладзь — тых занядбаных, якія найбольш патрабуюць апекі. З пакараннем М. Захаж уваходзіць толькі тады, калі вычарпае ўсе формы выхаваўчай дзейнасці, бо толькі такую дзейнасць ён лічыць асновай сваёй працы. Для гэтакай працы трэба мець шмат упартасці, самаахвярнасці, часу і ўражлівасці, але якраз усе ў раёне, у якім ён працуе, сцвярджаюць, што гэтыя рысы характару сержант Мар'ян Захаж мае. Ён арганізуе сустрэчы на фабрыках, у святліцах, удзельнічае ў бацькоўскіх сходах, прымае ўдзел у працы грамадскіх камісій, і ўсюды выяўляецца яго высокая культура і ўражлівасць на людскія справы, усюды спяшаецца з дапамогай.

За сваю працу сержант штабовы Мар'ян Захаж атрымаў медаль „За прыкладную службу ў МО“, значкі 10-годдзя і 20-годдзя ў службе народу, медаль 30-годдзя Народнай Польшчы і Сярэбраны Крыж Заслугі.

**Ольга Максімовіч**

„Niwa“ — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch“. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu“, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

